ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№42 (2340) 21 кастрычніка 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 10 рублёў.

## МУЗЕЮ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ — 50 ГАДОЎ



Гэтымі днямі Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адзначае сваё пяцідзесяцігоддзе. А рашэнне аб стварэнні музея было прынята ў 1943 годзе, калі яшчэ не ўся беларуская зямля была вызвалена ад ворага. І ўсяго праз год ён быў адкрыты для наведвання. Гэты унікальны музей, дзе захоўваюцца дзесяткі тысяч экспанатаў і дакументаў, — найбольш поўнае сховішча матэрыялаў перыяду Вялікай Айчыннай вайны.

Быў час, калі земляні-беларусы з Канады, Злучаных Штатаў Амерыкі, краін Заходняй Еўропы прыязджалі ў Беларусь вялікімі групамі, у піянерскім лагеры пад Мінскам кожнае лета адпачывалі іх дзеці. Яны знаёміліся з Мінскам, і абавязкова ў іх турысцкі маршрут уключалася наведванне Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Найбольшае ўзрушэнне госці зведвалі ў залах, дзе размяшчалася экспазіцыя "Акупацыйны рэжым і злачынствы нямецка-фашысцкіх захопнікаў на Беларусі", бо многія апынуліся за мяжой менавіта ў выніку дзеянняў акупацыйных уладаў.

Даволі часта разам з землякамі бывала ў музеі і я. Ён займае ўжо зручны і вялікі дом на Цэнтральнай плошчы сталіцы. І кожны раз, бываючы ў ім, успамінала гэты ж музей у першыя пасляваенныя гады. Ён тады месціўся ў старым будынку на плошчы Свабоды і залаў і экспанатаў меў значна менш. Яшчэ з тых часоў запомніліся рэчы абаронцаў Брэсцкай крэпасці. Бадай што, вядомым тады было толькі прозвішча лейтэнанта Наганава. І на ўсё жыццё запомніліся словы, што пісалі на чырвонай цэгле цытадэлі, не маючы надзеі на выратаванне, салдаты: "Умрем, но из крепости не уйдем. Прощай, Родина".

У майго пакалення, якое толькі што перажыло вайну, яшчэ былі свежыя ўспаміны, заходзілася ад болю і страху дзіцячае сэрца. З часам боль аціхае, а ў музеі з'яўляюцца новыя дакументы, экспанаты, якія вызначаць у сённяшніх і будучых наведвальнікаў іх стаўленне да падзей мінулай вайны.

**Д. ЧАРКАСАВА.**

НА ЗДЫМКАХ: у адной з залаў музея; экспанаты на адкрытай пляцоўцы.

Фота Віктара СТАВЕРА.



## НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

# МІТРАПАЛІТ КІПРЫЯН

Асновы магутнасці Вялікага Княства Літоўскага закладваліся яшчэ ў XIII стагоддзі. Гэта быў час, калі вырашаўся лёс цэлых плямёнаў і княстваў, з якіх маглі б — пры спрыяльных акалічнасцях — утварыцца народнасці і дзяржавы. Вырашаўся ён у шматлікіх войнах, залежаў ад таго, як князі, вялікія і меншыя, умелі ацэньваць міжнародныя абставіны, сітуацыю ў суседніх княствах, рабіць адпаведныя вывады, знаходзіць саюзнікаў, а перш за ўсё — бараніць сябе са зброяй у руках. Па адных і тых самых воўчых законах дзейнічалі і татара-мангольскія орды, і каталіцкія ордэны крыжакоў, якія пустошылі ўладанні і язычніцкіх прыбалтаў, і польскіх каталіцкіх княстваў, і землі Вялікага Княства Літоўскага. Тыя плямёны і княствы, што не далі рады прыстасавацца да жорсткіх вымаганняў часу, да выпрабаванняў на трываласць, гінулі, зліваліся з больш арганізаванымі, растваралiся ў іх. Ад колішніх прусаў і яцвягаў засталіся толькі летапісныя ўспаміны пра іх.

Гэта быў час, калі ўтвараліся зменлівыя — доўгачасовыя і кароткатэрміновыя — саюзы розных, звязаных паміж сабою і не звязаных, незалежных і залежных княстваў. Утваралася зменлівая і стракатая мазаіка палітычнага жыцця — саюзаў, захопаў новых земляў, набегаў на чужыя тэрыторыі, замірэнняў, палітычных, сваяцкіх і гандлёвых сувязяў. У ім нам сёння вельмі цяжка разабрацца, лёгка заблытваюцца нават і прафесіянальныя гісторыкі.

У тых умовах агульныя палітычныя інтарэсы аб"ядноўвалі некаторыя славянскія і балцкія плямёны, якія — вядома, не без шматлікіх і разнастайных канфліктаў — усё больш цесна згуртоўваліся і ўтварылі з цягам часу Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае.

Усё гэта варта нагадаць для таго, каб уявіць сабе гістарычныя ўмовы, у якіх давялося жыць мітрапаліту Кіпрыяну — царкоўнаму і літаратурнаму дзеячу рубяжа XIY і XY стагоддзяў, калі адзінай Русі не існавала, а колішнія рускія землі аб"ядноўваліся вакол двух асноўных цэнтраў — Вільні і Масквы.

У другой палавіне XIY стагоддзя стварaліся прадумовы для новых напрамкаў развіцця культуры на ўсходнеславянскіх землях. Вось тады на пярэдні план рэлігійнага і культурнага жыцця выпучаецца асоба Кіпрыяна. Мітрапаліт Кіеўскі і "ўсяе Русі", ён вымушаны быў каля дзесяці гадоў жыць у Заходняй Русі, таму што вялікі князь маскоўскі Дзмітрый Іванавіч не хацеў прызнаваць ягонае мітрапаліцтва.

Сучасны беларускі чытач пра Кіпрыяна практычна не ведае нічога. У даследаваннях па гісторыі Беларусі і нашай літаратуры ён не называецца і нават не згадваецца. Праўда, Вацлаў Ластоўскі прысвяціў Кіпрыяну некалькі старонак у сваёй фундаментальнай працы "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі" (Коўна, 1926). Але праз кароткі час на тэрыторыі Савецкай Беларусі артыкулам В.Кнорына "Аб рашаючых "дробязях" у вялікім пытанні" (1928) пачаўся крыжовы паход супраць гісторыі беларускае культуры і літаратуры. Бальшавіцкія кіраўнікі Беларусі пабачылі ў ёй смяротную пагрозу сацыялістычнай ідэалогіі.

Над нашай культурай і літаратурай доўга вісела бальшавіцкае пракляцце. А калі яно ўжо страціла сваю сілу, то не адразу ўдалося разабрацца, хто чаго ў нашай гісторыі быў варты.

Каб даведацца, хто такі Кіпрыян, пачытаем, што пішуць пра яго сучасныя рускія вучоныя. Вось толькі некаторыя звесткі пра ягоную творчасць: "В (...) 1381 г. Киприан создал свою редакцию "Жития Петра митрополита". (...) Эта редакция вошла как составная часть в написанную Киприаном Службу митрополиту Петру, состоящую кроме Жития из стихир, чтений из библейских книг, двух канонов и (после шестой песни канонов) кондака". "Киприану атрибутируется ряд литургико-поэтических произведений. Помимо Службы митрополиту Петру сюда относятся "Канон ко господу нашему Иисусу Христу и ко Пречистой Богородице...". "Молитва разрешити царя и князя и всякаго христианина...". "Последование провождению над умерьшим младенцем". Ряд молитв, может быть, написан Киприаном, но, возможно, также переведен им с греческого". (Словарь книжников и книжности Древней Руси. Вып. 2 (вторая половина XIY—XYI в.). Ч.I. А—К.—Ленинград, 1988, с. 464-475).

(Заканчэнне на 6-7-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПАЕЗДКА С. ШУШКЕВІЧА Ў САЛІГОРСК*



Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.Шушкевіч наведаў Салігорск. Тут ён сустрэўся з працоўнымі калектывамі горада, спусціўся ў адну з шахт вытворчага аб'яднання "Беларускалій".

У час паездкі С.Шушкевіча, адзначаюць сродкі масавай інфармацыі, было мінімум параднасці і ўрачыстасці — вяліся гутаркі аб набалелым і злабадзённым, аб нашым нялёгкім сённяшнім жыцці. Старшыня Вярхоўнага Савета ў сваіх выступленнях перад працоўнымі Салігорска расказаў аб карэктывах ранейшых пазіцый урада, накіраваных на пераадоленне негатыўных з'яў у палітычным і эканамічным жыцці Рэспублікі Беларусь.

НА ЗДЫМКУ: С. ШУШКЕВІЧ у час гутаркі з жыхарамі горада.

*ГРАМАДСКІ РУХ*

## "ВЯСНА-94"

Утворана Аб'яднанне дэмакратычных сіл "Вясна-94". Сярод удзельнікаў пагаднення тры палітычныя партыі: Аб'яднаная дэмакратычная, сялянская і сацыял-дэмакратычная Грамада, грамадскія арганізацыі (Згуртаванне прадпрымальнікаў Беларусі, Камітэт "Дзеці Чарнобыля", Саюз фермераў Беларусі, Фонд талентаў, Хрысціянская злучнасць "Курапаты" і інш.), прафсаюз Канфедэрацыі працы Беларусі і шэраг прыватных асоб, сярод якіх навукоўцы, прадпрымальнікі і вядомыя грамадскія дзеячы. Устрымаўся ад падпісання пагаднення БНФ, які прытрымліваецца прынцыпу парытэту чалавека і правоў нацыі.

Галоўная мэта Аб'яднання — стварыць дэмакратычныя ўмовы для цывілізаванага пераходу ад таталітарнай сістэмы да прававой дэмакратычнай дзяржавы.

Адна з бліжэйшых задач Аб'яднання — стварыць кааліцыйны ўрад народнага даверу, які будзе здольны ажыццявіць рашучыя эканамічныя рэформы і правесці новыя выбары ў Вярхоўны Савет на падставе дэмакратычнага выбарчага закону не пазней вясны 1994 года.

*УРАДАВАЯ ПАСТАНОВА*

## СТАТУС ПЛОШЧЫ

Прынята ўрадавая пастанова "Аб статусе плошчы Незалежнасці ў горадзе Мінску".

Улічваючы, што гэта плошча і размешчаныя вакол яе будынкі органаў дзяржаўнай улады і кіравання, устаноў і навучальных устаноў з'яўляюцца гісторыка-архітэктурным комплексам, а таксама з мэтай стварэння нармальных умоў для дзейнасці гэтых органаў, прадухілення магчымых правакацыйных актаў і недапушчэння парушэнняў грамадскага парадку на плошчы. Саўмін даручыў Мінгарвыканкаму з удзелам зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў удакладніць яе межы і статус. Маецца на ўвазе, што на плошчы Незалежнасці не павінны праводзіцца масавыя мерапрыемствы (дэманстрацыі, мітынгі, шэсці, пікетаванні), не звязаныя са святкаваннем устаноўленых заканадаўчымі актамі святочных дзён. Міністэрству ўнутраных спраў прадпісана забяспечыць грамадскі парадак на ўказанай плошчы, бяспеку дэпутатаў і службовых асоб пры правядзенні сесій Вярхоўнага Савета.

*ПАПЯРЭДЖАННЕ*

## ЗДАНЬ ІМПЕРЫІ

Сойм Беларускага народнага фронта "Адраджэнне" прыняў ухвалу, у якой з разуменнем паставіўся да рашучых дзеянняў Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына па ліквідацыі камуністычнага мяцяжу ў Маскве.

Разам з тым у дакуменце папярэджваецца: нельга выключаць варыянт, што пасля падаўлення яго, умацавання ўлады новай эліты, правядзення выбараў Расія будзе працягваць ранейшую імперскую геапалітыку. Наша грамадства павінна быць гатовым да гэтага і мацаваць суверэнітэт, рэфармаваць палітычную і эканамічную сістэму.

*ЗЛАЧЫНСТВЫ*

## ДВАНАЦЦАЦЬ КУЛЬ

11 кастрычніка ў 21.30 у Мінску быў забіты начальнік упраўлення знешнеэканамічных сувязей "Прыорбанка" Юрый Балбекаў. Яго знайшлі каля службовай машыны.

Здаецца, забойства буйных фігур айчыннага бізнесу і верхніх эшалонаў улады становіцца на Беларусі традыцыйным. Услед за Лісічуком, а таксама Арцыменяй рука забойцы дацягнулася да чарговага туза. Балбекаў курыраваў пункты абмену валюты. У целе забітага знайшлі 12 кулявых раненняў, а на месцы здарэння — 7 гільзаў.

*ПРАБЛЕМЫ*

*СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ БІБЛІЯТЭК*

## УПЕРШЫНЮ ЗА "КРУГЛЫМ СТАЛОМ"

У Варшаве ў Цэнтральнай сельскагаспадарчай бібліятэцы быў праведзены 3-ці "круглы стол" кіраўнікоў нацыянальных і цэнтральных сельскагаспадарчых бібліятэк ЗША, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Упершыню ў "круглым стале" ўдзельнічалі прадстаўнікі Беларусі, Расіі і Украіны. З Беларусі членам "круглага стала" стаў дырэктар Беларускай сельскагаспадарчай бібліятэкі Уладзімір Голубеў. Новыя члены "клуба" сельскагаспадарчых бібліятэк ЗША, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы падпісалі пагадненне аб інфармацыйным супрацоўніцтве і ўзаемавыкарыстанні інфармацыйных рэсурсаў па сельскай і лясной гаспадарцы і харчаванню.

Пагадненне прадугледжвае стварэнне прыярытэтаў у атрыманні інфармацыі і дакументаў, садзейнічае развіццю новых інфармацыйных тэхналогій у мэтах "паляпшэння доступу да сельскагаспадарчай інфармацыі ў нацыянальным і міжнародным маштабах, унутры краін і паміж краінамі".

Нацыянальная сельскагаспадарчая бібліятэка ЗША перадала ў дар Беларусі некаторыя вельмі каштоўныя бібліяграфічныя і паўнатэкставыя базы даных на аптычных кампакт-дысках

*ПЕРШЫЯ*

## ЗРОБІМ САМІ

На Мінскім аўтамабільным заводзе завяршаецца зборка першых двух аўтобусаў па ліцэнзіі заходнегерманскай фірмы "Неаплан". Адзін з іх прызначаны для перавозкі гарадскіх пасажыраў, другі — турыстаў. На нямецкай камплектацыі будзе выраблена не больш дзесяці машын. Цяпер у рэспубліцы вядзецца падрыхтоўка вытворчасці айчынных камплектуючых, і ўжо к канцу бягучага года працэнт іх выпуску значна ўзрасце.

— Неабходнасць развіцця беларускага аўтабудавання, — тлумачыць намеснік галоўнага канструктара МАЗа Генадзь Сінягоўскі, — узнікла з распадам блока СЭУ, і цяпер мы можам купляць аўтобусы толькі за валюту, якой, на жаль, у нас няма. Патрэба ж рэспублікі — 1 700 аўтобусаў у год. Набыццё ж ліцэнзіі дазваляе скараціць тэрмін вытворчасці на некалькі гадоў. Для вырашэння пытання пасажыраперавозак у Беларусі прадугледжаны выпуск уласнага аўтобуснага транспарту не толькі на МАЗе. Больш 1 000 машын для гэтых мэт будзе выпрабляць Лідскі аўтамабільны завод, а таксама беларускае акцыянернае таварыства "Амкадор".

*НА ГРАНІЦЫ*

## ПЛЫВУЦЬ НАРКОТЫКІ

На кантрольна-прапускным пункце ў Кене на літоўска-беларускай граніцы быў затрыманы нехта Г., грамадзянін ЗША, які меў білет да Уладзівастока, ехаў у асобным купэ і вёз марыхуану. Усяго ў ліпені затрымана 77 такіх парушальнікаў, у жніўні — 111. Гэта пераважна грамадзяне з Кітая, Балівіі, Індыі, Афганістана. Яшчэ больш затрымана парушальнікаў, якія спрабавалі правезці зброю.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

У ЛЁЗНЕ, на Віцебшчыне, адзначылі 50-годдзе вызвалення горада і раёна з-пад нямецкай акупацыі. Самая сумная юбілейная навіна: да гэтага часу на дзве трэція не адноўлена даваенная колькасць насельніцтва Лёзненскага раёна.

ПРЫ ПРАКЛАДЦЫ траншэі пад будаўніцтва новага дома ў адным з жылых раёнаў Смалявіч рабочыя натрапілі на склад боепрыпасаў часоў апошняй вайны. Сапёры дасталі і абясшкодзілі 140 снарадаў, мін, гранат.

СЯРЭДНЯЯ зарплата ў Беларусі летась у студзені была 6,6 долара, а ў маі 1993 года ўзнялася да 20,1 долара. Сярод 13 былых рэспублік СССР мы ўладкаваліся на пятае месца. На 1 і 2 месцах па заработнай плаце знаходзіцца Латвія і Эстонія.

АМАЛЬ 800 дзяцей з сямей мінчан жывуць у дзіцячых дамах і школах-інтэрнатах. Але толькі 10 працэнтаў з іх сіроты. Астатнія пры жывых бацьках не ведаюць бацькоўскай ласкі, бо не патрэбныя ім.

ЦЭНЫ на газ у Беларусі будуць расці і, па словах прэзідэнта Беларускага канцэрна па паліву і газіфікацыі Э.Таўпянца, да 1 студзеня 1994 года дасягнуць узроўню сусветных. Калі ў верасні за 1 тысячу кубічных метраў газу жыхары рэспублікі плацілі 4 500 расійскіх рублёў, то ў кастрычніку — ужо 15 300 рублёў.

БЕЛАРУСЬ прынялі ў "Інтэрпол". Адбылося гэта на 105-й сесіі Генеральнай асамблеі гэтай арганізацыі, якая праходзіла ў Галандыі на востраве Аруба. Уступны ўзнос Беларусі склаў 61 тысячу долараў ЗША.

ДЭПУТАТЫ Чэрвеньскага гарадскога Савета падтрымалі ініцыятыву групы мясцовай інтэлігенцыі аб устанаўленні мемарыяльнай дошкі на доме, у якім у гады вайны жыў вядомы кампазітар Мікола Равенскі. Створаны аргкамітэт па падрыхтоўцы гэтай падзеі, якая мае адбыцца на Дзяды.

ПАДЧАС крывавых кастрычніцкіх падзей у Маскве загінула некалькі жыхароў Беларусі. Адзін з іх — генеральны дырэктар асацыяцыі "МОКА" Сяргей Монін, які быў забіты на вуліцы каля тэлекампаніі "Астанкіна". Другі — палкоўнік Ключнікаў. Ён быў скошаны куляй каля Белага дома. Абодва пахаваны ў Мінску.

*РЭСТАЎРАЦЫЯ*

Цікавы помнік культуры XIII—XIV стагоддзяў, што ахоўваецца дзяржавай, знаходзіцца ў вёсцы Сынкавічы Зэльвенскага раёна. Гэта царква абарончага тыпу. Унікальная яна тым, што ў мірны час скарыстоўвалася як культавая ўстанова, а ў перыяды набегаў ворагаў — як абарончая крэпасць. Тут ёсць усё для таго, каб весці асадны бой: шчыліны для ружжаў і гармат у сценах, адтуліны ў столі для стральбы з лукаў і арбалетаў і іншыя прыстасаванні.

Усе апошнія стагоддзі ў царкве пастаянна праводзіліся богаслужэнні. У ёй быў цудоўны іканастас, унутранае аздабленне ўяўляла сабой своеасаблівы твор мастацтва. Нават ворагі схілялі галовы перад гэтай хрысціянскай святыняй.

У пяцідзесятыя гады нашага стагоддзя царква была разрабавана. І толькі нядаўна з дапамогай прыхаджан, царкоўных улад і мясцовага калгаса "Рассвет" гэта унікальнае збудаванне адноўлена. Засталося прывесці ў парадак унутранае ўбранне.



НА ЗДЫМКУ: царква абарончага тыпу ў вёсцы Сынкавічы Зэльвенскага раёна пасля аднаўлення.

# Валянцін ЗАНКОВІЧ:

# І КАМЕНЬ ЗАІСКРЫЦЦА, КАЛІ ЯГО АДШЛІФАВАЦЬ



Што такое для апантанага чалавека пяцьдзесят шэсць гадоў? А нішто, калі ёсць сілы, планы, жаданне працаваць. І тым не менш, ішоў у майстэрню скульптара Валянціна Занковіча з цвёрдым перакананнем, што самае-самае ён ужо зрабіў, мэта дасягнута. Адзін пералік работ, якія прынеслі творцу сусветную славу, ставіць яго імя ў лік выдатных дзеячаў культуры нашага стагоддзя. Гэта ў першую чаргу мемарыяльныя комплексы "Хатынь", "Брэсцкая крэпасць-герой", "Мінск — горад-герой", дэкаратыўная скульптура "Арфей"... Куды ні паедзь, у які раён беларускай сталіцы ні загляні, паўсюль убачыш творы гэтага выдатнага майстра.

А маэстра мог бы і не адбыцца...

— Не паспеў я, як кажуць, нарадзіцца, не стала бацькі, — расказвае пра сябе Валянцін Паўлавіч. — Не ведаю дакладна, за што забралі майго тату, настаўніка з Вілейкі. Па адной з версій яго расстралялі ў Курапатах. Крыўдны ярлык "сын ворага народа" да мяне быў прыклеены на многія гады. Асабліва стараўся пастаянна нагадваць аб гэтым завуч школы, у якой я вучыўся.

— І, напэўна, гэта крыўда не дазволіла вам потым ствараць скульптуры-помнікі лідэраў бальшавіцкага рэжыму? — спытаўся я ў Валянціна Занковіча.

— Мне і на самай справе трэба было б выхаваць у сабе нейкую нянавісць да іх. Але як ні парадаксальна, толькі лепшай сваёй работай я лічу помнік... Леніну. На жаль, ён так і не быў устаноўлены ў Навагрудку: прыйшлі гады перабудовы.

— Што ж у ім адметнага?

— На думку спецыялістаў, усіх, хто бачыў гэты помнік, — атрымаўся жывы чалавек. Глядзіш на скульптуру, і ствараецца ўражанне, быццам бы Ленін (тут бяру, заўважце, яго ў якасці канкрэтнай асобы) вось-вось сыдзе з пастамента, "зліецца" з намі, натоўпам, людзьмі, што некуды спяшаюцца, заклапочаны паўсядзённымі справамі.

— Але ж нельга без хвалявання глядзець і на "Хатынь", і на іншыя вашы творы. Колькі эмоцый, нават слёз выклікаюць яны ў наведвальнікаў. Няўжо нешта ў іх недадумана, не ўвасоблена? Даруйце, не ведаю вашай першай значнай работы...

— З першай работы і пачнём, — кажа Валянцін Паўлавіч. — У пяцідзесятыя гады я паступіў у Беларускі політэхнічны інстытут вучыцца на архітэктара. На чацвёртым курсе разам з сябрам па вучобе Алегам Стаховічам прынялі ўдзел ва Усесаюзным конкурсе скульптуры, прысвечаным пакарыцелям космасу. Конкурс праводзіўся інкогніта. І там наша работа атрымала добры водгук. Гэта мяне акрыліла. Я зразумеў, што магу стварыць і нешта больш значнае.

Вось тут і пачаліся блуканні... па пакутах. Скончыў Валянцін Паўлавіч БПІ, пайшоў працаваць у "Мінскпраект".

— І стаў хлопчыкам на пабягушках. Займаўся работай, якая ні мне, ні іншым не была, здаецца, патрэбна. Асабліва здзіўляла, што нікога тут не цікавілі і мае асабістыя задумы. Яшчэ цяжэй было прабіць нешта праз мастацкі савет. Не хачу сказаць, што ў яго ўваходзілі людзі, далёкія ад мастацтва. Але штосьці наватарскае яны сустракалі ў штыкі. Асабліва цяжка было прабіцца маладому творцу...

— Давайце, Валянцін Паўлавіч, вернемся да комплексу "Хатынь". Вось вы кажаце, што маладому аўтару амаль немагчыма было стварыць нават простую работу. А вам даручылі такі грандыёзны помнік. Хіба не было больш масцітых?

— Яшчэ колькі! — кажа Валянцін Занковіч і працягвае: — Тут дапамог не выпадак, а мая настойлівасць. Пазнаёміўся я з конкурснымі работамі сваіх калег. І (не думайце, што хвалюся) прыйшоў да высновы: у мяне лепшая. Але ізноў — мастацкі савет. Бачу: не быць мне аўтарам. І тады адважыўся пайсці на прыём да самога Машэрава. А яму найвялікшы аўтарытэт не аўтарытэт, калі трэба, каб перамагла ісціна. Зацвердзілі мой праект.

Многім мая настырнасць не спадабалася. Стаў ляпіць дэталі комплексу. Тут і пайшлі ставіць палкі ў колы. Стварыў фігуру Камінскага. Бачу, штосьці ў ёй не тое: надта высока трымае ў руках стары мёртвага сына. Кажу на мастацкім савеце: трэба перарабіць. І зноў колькі нерваў сапсаваў, пакуль атрымаў дазвол. А пасля прыйшлося яшчэ звярнуцца да Машэрава. Ужо гатовы быў праект "Хатыні". Але мне здалося, нечага жалобна-ўрачыстага не хапае. Прыйшла думка ўвесці званы. Тады ўжо катэгарычна супраць выступілі і члены ўрада Беларусі: "Ты тут не сунь рэлігію". І ўжо каторы раз дапамог Пётр Міронавіч.

Хаця, лічыць Занковіч, многія дэталі комплексу можна было б і лепш зрабіць.

Кантакты з Машэравым, якога Валянцін Паўлавіч лічыць цудоўным чалавекам, усталяваліся і добрыя, і моцныя. Занковіч скончыў яшчэ і Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, атрымаў спецыяльнасць скульптара. Неяк выклікаў яго Пётр Машэраў і падаў ідэю стварыць грандыёзны мемарыял-помнік Беларусі-партызанцы. І Валянцін Паўлавіч горача ўзяўся за гэту працу. З'явіліся эскізы, фрагменты.

— А ўстанавіць помнік, — тлумачыць скульптар, — планавалася ў сталічным мікрараёне Усход. На жаль, Пятра Міронавіча хутка не стала. Не здзейснілася пакуль яго задума. Работа прыпынілася.

... Тэлефонны званок перабіў нашу гутарку. Пакуль Валянцін Паўлавіч некаму штосьці даводзіў, я агледзеў яго майстэрню. Пакой даволі вялікі. Да высокай столі на стэлажах — скульптуры, планшэты, эскізы, рыштунак: стамескі, кавадла, цісочкі. Бачна: рукі гаспадара добра ведаюць і слясарную, і іншую працу.

— А яшчэ, — паказаў на пластылін Валянцін Паўлавіч, скончыўшы размову, — як таму вучню, трэба ўмець і ляпіць.

У вачах скульптара вясёлыя іскрынкі. Але час ідзе. Хочацца даведацца пра яго як мага больш. Жарты — потым. Хаця, пры чым тут жарты? На самай справе: і ляпіць, і выразаць, і высякаць, і паяць... Усё патрэбна скульптару. Тут дробязей няма.

Звярнуў увагу на злеплены макет. Спытаў, што гэта. Яшчэ адна задума, яшчэ адна работа, якая, на жаль, ужо ніколі не пабачыць свет.

— Гэты мемарыяльны комплекс планавалася ўстанавіць на Цэнтральнай (цяпер Кастрычніцкай) плошчы Мінска, — гаворыць Валянцін Паўлавіч. — Па першапачатковай задуме комплекс павінен быў бы называцца прыкладна так: "Беларусь. Рэвалюцыя ад 17-га года да нашых дзён". У працэсе работы ўзнікла жаданне паказаць гісторыю рэспублікі яшчэ з больш далёкіх часоў. Таму на макеце бачу сцэны з паўстання Каліноўскага.

— Стаўшы "свабодным скульптарам", я нібы развязаў сабе рукі, — кажа Валянцін Занковіч. — Не залежу ад мастацкага савета, ствараю работы, даўно задуманыя, выпакутаваныя. Гэта прыносіць мне задавальненне. У першую чаргу — маральнае. Таму і працуецца лёгка.

— Тады, калі не сакрэт, падзяліцеся творчымі планамі, — прашу я Валянціна Паўлавіча.

Ён устае з-за стала і падводзіць да эскіза-фатаграфіі, пачынае тлумачыць:

— Галоўны з іх — мемарыяльны помнік-комплекс "Курапаты". Хачу пакінуць памяць і па сваім бацьку, і па многіх тысячах іншых людзей, якія бязвінна загінулі ў гады сталінскіх, бальшавіцкіх рэпрэсій. Каб нашы нашчадкі ніколі не забылі гэту трагедыю.

Другая праца — помнік Скарыне. Вось зрабіў некалькі макетаў.

— І калі мы ўбачым помнік? — пытаюся ў скульптара.

— Эскізы помніка Скарыне прадстаўлены на конкурс. Няхай камісія вырашае. Складаней з "Курапатамі". Як гэта ні парадаксальна, але лёс маёй работы сёння залежыць... ад Масквы. Там пакуль не хочуць прызнаць, што былі Курапаты. Хаця гэта і даказана. Але калі б і не было канкрэтнага месца Курапаты, былі іншыя, дзе пакутавалі бязвінныя людзі, а іх не трэба забываць.

У канцы гутаркі ў мяне ўзнікла яшчэ адно пытанне. У майстэрні я раптам убачыў некалькі бюстаў. У адзін з іх я літаральна ўтаропіўся: на мяне глядзеў добра знаёмы некалі чалавек — Валерый Мікуліч. Некалькі гадоў запар працавалі мы на прыборабудаўнічым заводзе ў Мінску. Потым Валерый стаў падымацца па партыйнай службовай лесвіцы. Але заўчасная смерць напаткала гэтага чалавека.

Яшчэ адзін бюст — асобы, якая ў партыйнай іерархіі стаяла намнога вышэй за Мікуліча.

Што гэта: адыход ад маральных перакананняў, здрада самому сабе — ствараць работы па асабістаму заказу?

Пытанне я так і не задаў, але адказ на яго знайшоў у скаргах Занковіча на штодзённае нялёгкае жыццё. Што рабіць, калі скульптар не можа дазволіць сабе нават уключыць у майстэрні ўсе лямпы, калі тут пануе, як кажуць, сабачы холад, калі за арэнду гэтага памяшкання трэба заплаціць немалыя грошы.

Кожны з тых бюстаў — твор мастацтва. Выкананы на добрым узроўні. Не, Валянцін Занковіч не здраджвае сабе, не халтурыць. Ён — маэстра, заслужаны і ўсімі прызнаны. Але ён і чалавек, які жыве ў гэтым свеце і ў гэтым часе. Гэта скульптура можа атрымацца ідэальнай. І то адна з многіх.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: работы Валянціна ЗАНКОВІЧА "Арфей" (скульптура ўстаноўлена каля ўваходу ў Мінскае музычнае вучылішча) і "Бег" (гэта скульптурная кампазіцыя была прымеркавана да Алімпійскіх гульняў 1980-га года і ўстаноўлена на галоўным стадыёне Рэспублікі Беларусь "Дынама").**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**





50 ГАДОЎ НАЗАД

# БЫЎ ТАКІ ЧАСОПІС "ПОКЛІЧ"

Споўнілася 50 гадоў з дня выхаду ў свет першага нумара беларускага школьнага часопіса "Покліч". Выдавала яго Беларуская настаўніцкая семінарыя ў Навагрудку.

У гэтыя юбілейныя дні мне захацелася пагартаць той першы нумар "Покліча", які выйшаў з друку ў верасні 1943 года. На жаль, цяпер семінарыі, ліцэі, школы ў нас у Беларусі такіх выданняў не маюць.

Адкрываўся часопіс артыкулам дырэкцыі семінарыі, якая паведамляла, што "выданьне школьнага квартальнага часопісу "Покліч" Беларускай Настаўніцкай Сэмінарыі ў Навагрудку з'яўляецца вынікам дзейнасьці літаратурнага гуртка сэмінарыі. Родная школа абудзіла юнацкія душы і накіравала моладзь да родных духовых вартасьцяў свайго народу".

На наступных старонках часопіса змешчаны вершы вучняў 1–2 класаў семінарыі І.Куліцкай, У.Лойкі, Т.Гладкай, Г.Бузук, І.Макарэвіч і іншых хлопцаў і дзяўчат. Ці жывуць зараз гэтыя паэты, цяжка адказаць. Але вершы, якія былі надрукаваны ў першым нумары часопіса, проста ўражваюць сваім нацыянальным каларытам, любоўю да Беларусі, яе прыроды, помнікаў і людзей.

Змешчаны на старонках "Покліча" і апавяданні, абразкі, замалёўкі, фельетоны. Асабліва прыцягвае ўвагу рэферат, які быў прачытаны на акадэміі ў семінарыі "Францішак Багушэвіч на шляху беларускай літаратуры".

У першым нумары "Покліча" прыцягваюць увагу артыкулы А.Валюсіка "Памяці дырэктара Я.Цеханоўскага" і "Зачараванае кола" — успаміны з жыцця Навагрудскай беларускай гімназіі.

Цікава чытаецца ў часопісе і "Хроніка". З яе можна даведацца, чым займаліся ў вольны час семінарысты, а захапленні ў іх былі самыя разнастайныя. Гэта і малебен, прысвечаны святу 25 Сакавіка, і красамоўныя конкурсы на тэмы: "Жыве Беларусь", "Праз працу да будучыні", "Над Нёманам", "На родных гонях", "Гаспадарка Беларусі", "За славу і волю", гэта і літаратурныя вечары, прысвечаныя Ф.Багушэвічу, К.Каліноўскаму, К.Каганцу, гэта і спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы, і наведанне выставы мастака Рамашкевіча, і г.д.

На апошніх старонках часопіса змешчаны "Куток гумару і разрывак". Вось адна са смяшынак "Покліча":

— Якое стварэнне самае наймудрэйшае?

— Рыба.

— Чаму?

— Бо заўсёды маўчыць.

Надрукаваны ў часопісе таксама спісы выдатнікаў, лепшых спартсменаў і іншыя звесткі з вучэбнага працэсу настаўніцкай семінарыі.

Сяргей ЧЫГРЫН.

Паўліна МЯДЗЁЛКА

# КУПАЛАЎСКАЯ "ПАЎЛІНКА" Ў МАІМ ЖЫЦЦІ

Танцы паставіла кіраўніца харэаграфічнага гуртка настаўніца нямецкай мовы Эла Генрыхаўна (прозвішча не памятаю). Поспех з пастаноўкі "У чырвоным млыне" быў велізарны! Слава аб дзейнасці нашай гімназіі дайшла да Рыгі. Міністрам асветы ў той час быў народны паэт Латвіі Ян Райніс, вялікі прыхільнік беларусаў і беларускай культуры. Ён запрасіў наш калектыў выступіць у Рызе. У зімовыя канікулы ў 1923 годзе на сцэне Латышскага нацыянальнага тэатра мы паставілі спектакль Купалаўскай "Паўлінкі" і далі канцэрт з беларускіх і латышскіх народных песень. На спектаклі прысутнічаў сам Ян Райніс і некаторае вышэйшае начальства з латвійскага ўрада. Пасля канцэрта Ян Райніс разам з усім нашым калектывам сфатаграфаваўся на сцэне тэатра (арыгінал гэтага фота знаходзіцца ў музеі імя Я. Купалы).

Аднак наша дзейнасць не даспадобы прыйшлася, як і польскім панам у Гродне, буржуазным латышскім нацыяналістам. Рэакцыйныя колы ўзялі верх у латышскім урадзе. Змянілі Яна Райніса з пасады міністра асветы. Пачаліся вобыскі сярод настаўнікаў беларускіх школ і гімназіі, а пасля арышты. Прычапіліся да знойдзеных у школах этнаграфічнай карты і падручніка па геаграфіі Аркадзія Смоліча і ў выніку на лаўку падсудных села 8 настаўнікаў, у тым ліку дырэктар гімназіі Ян Красоўскі і я. Мы абвінавачваліся "в преступном сообществе с целью отторжения части Латвии и присоединения ее к соседнему государству" (з акта абвінавачання). Праўда, да суда нас выпусцілі з турмы пад залог, але знялі з работы. 8 месяцаў я была без працы, галадала. Вясной 1925 года тры дні адбываўся судовы працэс. Паказанні мнагалікіх сведкаў разбіліся, і суд вымушаны быў апраўдаць нас. Аднак на другі дзень пасля суда я атрымала загад у 12-ці дзённы тэрмін пакінуць межы Латвіі. Ніякія захады Таварыства "Бацькаўшчына", ні бацькоўскага камітэта гімназіі, ні калектыўнае выступленне саміх вучняў гімназіі не дабіліся хаця б адтэрміноўкі маёй высылкі. Атрымаўшы ў Савецкім пасольстве візу і грашовую дапамогу, 20 мая 1925 году я ўпершыню прыехала ў савецкі Мінск.

Працуючы ў якасці асістэнта пры кафедры беларусазнаўства Акадэміі сельскай гаспадаркі ў Горках, я змагла стварыць толькі два харавыя калектывы — студэнцкі а капэльны хор і невялічкі вакальны ансамбль з навукоўцаў. Ніякага музычнага інструмента там не было, і ўсе партыі трэ' было развучваць са свайго голасу. Дапамагалі мне ў гэтай справе Леаніла Чарняўская-Гарэцкая, Кіслякова-Галубоўская, Ганчарык і іншыя жонкі прафесараў.

З восені 1932 года я працавала настаўніцай "Первой образцовой школы" ў Маскве. Задумалі мы наладзіць у школе інтэрнацыянальны вечар. Кожны класны кіраўнік павінен быў са сваім класам падрыхтаваць праграму з творчасці якой-небудзь нацыянальнасці Савецкага Саюза. Я, рэч вядомая, узяла на сябе беларускую праграму. Але што ты зробіш з адзінаццацігадовымі пяцікласнікамі? Не паставіш жа з імі "Паўлінку". І я зрабіла немудрагелістую інсцэніроўку верша Якуба Коласа "На адзіноце", дзе, апрача чытача ад аўтара, на сцэне было двое выканаўцаў: маці і малы сын. Надзіва хутка і добра аўладалі мае "акторы" чыстай беларускай мовай. Дзеці недзе раздабылі прасніцу, нават з кудзеляй, калаўрот, карасінавую лямпу. На шастку павесілі два кажушкі аўчынай наверх, сцяну завесілі прыгожай тканінай з беларускім арнаментам. Апрача гэтай інсцэніроўкі, праспявалі на два галасы тры беларускія народныя песні і ў канцы — танец "Шастак" пад песню замест музыкі. З усіх выступленняў публіцы спадабалася наша і цыганскія танцы. На вечары прысутнічалі рэжысёр маскоўскага ТЮЗа і пару актораў. Рэжысёр падышоў да мяне, пахваліў усю нашу праграму і... запрапанаваў мне перайсці на працу ў ТЮЗ. Я была збянтэжылася ад гэтай прапановы і сказала, што я не маю прафесіянальнай тэатральнай адукацыі, а таму не магу прыняць яго прапановы.

Летам 1947 года сямейныя абставіны змусілі мяне пакінуць Маскву і пераехаць да адзінокай маткі ў родны Будслаў. З першых дзён працы ў школе я пачала падбіраць галасы для хору і рыхтаваць пастаноўку "Паўлінкі". Хаця ў Будславе быў клуб, але яго загадчык немаведама чым займаўся, толькі клуб з дня ў дзень быў на замку. Рэпетыцыі хору адбываліся ў маёй хаце. Карасіны ў той пасляваенны час выдавалі настаўнікам па 2 літры на месяц. Сшыткі я правярала пры капцілцы, а карасіну зберагала на спеўкі. Збіраліся чалавек да 40 харыстаў звычайна а гадзіне 10 вечара і разыходзіліся за поўнач. Што тварылася ў маёй хаце пасля спевак! Поўна шалупіння сланечнікаў, гарох, рознае смецце, паабрываныя кускі паперы ад вучнёўскіх сшыткаў на цыгаркі... Пасля поўначы, калі ўсе ўжо разыходзіліся, мы з мамай адкрывалі вокны, падмяталі, мылі падлогу. І ніхто не здагадваўся нам дапамагчы ў гэтым. Я сказала харыстам, што калі яны будуць акуратна прыходзіць на спеўкі, то я ручаюся праз два гады вывесці іх на рэспубліканскі агляд сельскай самадзейнасці. А выйшла так, што мы туды трапілі праз паўгода. Праз пару месяцаў у будслаўскім клубе мы паставілі "Паўлінку" і канцэрт. Чуткі аб гэтым дайшлі да вобласці. Аднойчы ў час спеўкі ў маёй хаце паявіўся дырэктар Маладзечанскага абласнога Дома народнай культуры. Моўчкі праслухаўшы нашы песні, ён выехаў, а праз некалькі дзён нас выклікалі на абласны агляд самадзейнасці.

Першая двухгалосная песня пад акардэон "Мы беларусы", з якой па традыцыі пачынаў кожны харавы калектыў, члены журы выслухалі спакойна. Але як пачалі без інструмента спяваць "Ой, пайду я лугам, лугам" у гарманізацыі кампазітара Рагоўскага, члены журы захваляваліся — то, нахіляючыся адзін да другога, усхвалявана шапталіся, то зноў уважна слухалі. Пабачыўшы гэта, загадчыца Крывічскага аддзела культуры, струхлела ад страху, думаючы, што зблыталіся. Тым больш, калі да яе вуха даляцелі ціхія гутаркі з публікі: "Ай, бедненькія, збіліся, не разам усе пачалі, кожны пяе свае словы асобна". Аказваецца, члены журы былі здзіўлены, што наш хор сельскай самадзейнасці а капэльны, бо тады, у пачатку 1948 года, ва ўсёй рэспубліцы былі толькі двухгалосыя хоры ў суправаджэнні баянаў ці акардэонаў. Мы праспявалі некалькі песень, і нам тут жа абвясцілі, што пакідаюць нас на заключны канцэрт. Чацвёра сутак мы чакалі ў Маладзечна заключнага канцэрта. Мне то далі выгодны начлег, а мае харысты размяшчаліся ў той жа зале, дзе адбываўся агляд. Да поўначы праходзілі музыкальна-вакальныя нумары, а пасля да гадзіны 4-й раніцы спектаклі. Пакуль мае харысты пассоўваюць крэслы і ўлягуцца на іх, пакуль самкнуць у дрымоце вочы, у 5.30 раніцы прыходзяць прыбіральшчыцы, падымаюць харыстаў. На заключны канцэрт прыехалі з Мінска начальства з Міністэрства культуры, артысты опернага тэатра. Мы чакаем свайго выступлення ў канцы 1-й часткі канцэрта. Мае харысты соўгаюцца, як тручаныя мухі, расхварэліся — у каго галава баліць, у каго жывот, горла. "Нічога не выйдзе ў нас, — кажуць мне, — правалімся!" Я і сама ў страху. Што рабіць? Раптам успомніла, што, праходзячы міма аптэкі, я зайшла туды, купіла два пакецікі таблетак кафеіна. Падыходжу да аднаго: "На, глытай!" — "Ад чаго?" — "Ад галавы!" Да другога: "Глытай — ад горла". Трэцяму: "Ад жывата!" Накарміла ўсіх кафеінам, і праз хвілін 5–10 пасвятлелі ў спевакоў вочы, паўзнімаліся галовы. Для большай бадзёрасці я хлопцам салёненькі анекдоцік раскажу, дзяўчат стараюся развесяліць. А тым часам харысты нашых канкурэнтаў з пастаўскага хору, чакаючы сваёй чаргі ў пачатку 2-й часткі канцэрта, прытуліліся адзін да аднаго і спакойна драмалі. І вось каманда: "Будслаў, на сцэну!" І што ты скажаш? — праспявалі з такім уздымам, як ніколі. Як кажуць, "без сучка и задоринки". Кафеін памог! А пастаўскі хор у 60 чалавек з 4-ма баянамі (двухгалосы) ужо ў канцы першай песні раз'ехаўся хто куды, а другую песню "Соловьи, соловьи, не будите солдат" прыйшлося абарваць на першай страфе. Выходзіць са сцэны капітан-кіраўнік хору. Шчокі палаюць чырванню, пад вачыма сінія кругі.

— Глоткі праспалі, сукіны сыны! — крычыць у роспачы.

— А вы дзе былі? — пытаюся. — Круціліся каля начальства і пакінулі сваіх людзей без дагляду.

Так мы атрымалі першую прэмію на абласным аглядзе, а неўзабаве нас паслалі на рэспубліканскі агляд у Мінск.

Так пачалася дзейнасць нашага драматычнага і харавога гуртка ў Будславе. З месяца ў месяц пашыраўся і ўдасканальваўся наш рэпертуар. З пастаноўкай купалаўскай "Паўлінкі" і "Хто смяецца апошнім" Кандрата Крапівы мы выязджалі ў Маладзечна. З канцэртамі выязджалі ў Даўгінава, Докшыцы, Мільчу і інш. Аднойчы нас выклікалі з канцэртам у Дзень Чырвонай Арміі ў Маладзечна. За дзень у мітусні мае харысты не паспелі паабедаць, а пасля канцэрта сталовыя былі ўжо закрыты. Мы вырашылі паесці на вакзале ў рэстаране. Саставілі сталы, кожны на свае грошы заказваў сабе вячэру, а я за зэканомленыя грошы дазволіла хлопцам выпіць па чарцы белай, а дзяўчатам — віна. Прагнаўшы першы голад, зацягнулі песню. Тады я рассадзіла іх па галасах, устала з-за стала, пачала дырыгаваць. І тут мы далі другі канцэрт. З усяго вакзала набралася паўнюсенька публікі. А калі мы скончылі чарговы нумар нашай праграмы, падышоў да мяне якісь пажылы палкоўнік:

— Мамаша, позволь мне расцеловать тебя! — сказаў і, абняўшы мяне, пачаў цалаваць.

Шчаслівейшага за мяне чалавека ў свеце не было тады.

Апрача беларускіх народных песень у апрацоўцы кампазітараў, былі ў нашым рэпертуары сучасныя савецкія, рускія песні, украінскія, чэшскія народныя, польскія з рэпертуару "Мазовше", а з класікаў — Манюшка, Расіні (хор швейцарцаў з оп. "Вільгельм Тэль") і інш.

Са школьным драматычным гуртком ставілася "Пінская шляхта" Дуніна-Марцінкевіча, "Белеет парус одинокий" Катаева. У гэтым апошнім спектаклі запамятаўся адзін момант: школьная сцэна маленькая, цесная, на якой нельга было правесці масавыя сцэны. І я надумалася сцэну мітынгу перанесці ў глядзельную залу. Паміж публікі размясціла ў розных месцах сваіх юных актораў, якія павінны былі падаваць рэплікі прамоўцу-матросу. Публіка не была папярэджана пра гэта і з хваляваннем сачыла за падзеямі. Але вось праз уваходныя дзверы ўрываюцца паліцэйскія, якія імкнуцца злавіць матроса. Бацюхны мае! Што тут пачалося тварыцца з публікай! Адны пачалі хаваць матроса, дапамагаць яму ўцячы, другія накінуліся на паліцэйскіх і пачалі іх так дубасіць, што мне прыйшлося ўмяшацца і абараніць бедных хлопцаў, каб іх зусім не пакалечылі. Я не спадзявалася на такую жывую рэакцыю публікі.

Нельга не сказаць і аб тых клопатах, згрызотах і непакоі, якія звальваліся на мяне ад тых маіх хлопцаў-харыстаў і актораў, што лічылі патрэбным "для храбрасці" перад выступленнем прамачыць горла. Колькі давялося пабегаць па хатах, шукаючы, дзе хаваліся ад мяне з бутэлькай такія аматары паласкаць горла. Было і такое, што адной рукой учапіўшыся ў кудлы, другой хлястала па шчоках такога аматара. Аднак не крыўдзіліся за гэта на мяне.

— Біце, біце мяне. Вы, як родная маці, б'еце.

Калі ж з гадамі сапсавалася маё правае вуха і перастала чуць, я змушана была спыніць працу з хорам, бо з адным вухам нельга кіраваць хорам. Тады я пачала чытаць лекцыі ў клубе і ў школе аб музыкальным мастацтве — як трэба слухаць і разумець музыку, ілюструючы сваю гутарку праіграваннем пласцінак класічнай музыкі.

Такім чынам, з купалаўскай "Паўлінкі" пачалася мая дзейнасць на фронце беларускай культуры. "Паўлінка" натхняла мяне, "Паўлінка" прываблівала да культурнай дзейнасці людзей, пашырала іх круг.

Заканчэнне.
Пачатак у №№ 39 — 41.

Публікацыя падрыхтавана Язэпам ЯНУШКЕВІЧАМ.

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# У МАЛАДЫХ ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАХ

У 1776 годзе трынаццаць англійскіх калоній у Паўночнай Амерыцы аб'явілі сябе незалежнымі Злучанымі Штатамі. Сем гадоў яны ваявалі супраць войск англійскага караля, пакуль не дабіліся перамогі.

Пра маладую дзяржаву ў Еўропе ведалі няшмат. Адным з першых пісьменнікаў, якія расказалі сваім еўрапейскім землякам пра ЗША, быў выхадзец з нашых мясцін Юльян Нямцэвіч, вядомы дзеяч эпохі Асветы ў Рэчы Паспалітай — дзяржаве, якая аб'ядноўвала Польшчу і Вялікае Княства Літоўскае.

Цяперашні раз'езд Скокі па дарозе ад Брэста на Высокае названы па аднайменнаму маёнтку, у якім 16 лютага (па новаму стылю) 1757 года нарадзіўся ў сям'і беднага шляхціца Юльян Нямцэвіч.

Ю.Нямцэвіч вучыўся ў Варшаве, а затым прыняў актыўны ўдзел у палітычным жыцці ў краіне. Ён пісаў п'есы, у якіх крытыкаваў своекарыслівасць рэакцыйнай шляхты, якая працівілася палітычным рэформам, выдаваў першую палітычную газету ў Рэчы Паспалітай.

У час паўстання 1794 года, якое ўзначаліў Тадэвуш Касцюшка — таксама ўраджэнец Брэстчыны і яго сваяк, Ю.Нямцэвіч быў начальнікам канцылярыі правадыра рэвалюцыйнага руху.

Паўстанцы былі разбіты ўшчэнт пад Мацэёвіцамі. Царскія войскі ўзялі ў палон і раненых Т.Касцюшку і Ю.Нямцэвіча, многіх генералаў і вышэйшых афіцэраў, сярод якіх быў ураджэнец Пінскага павета Ю.Копэць.

Два гады правёў Ю.Нямцэвіч у Петрапаўлаўскай крэпасці, пакуль Павел І не вызваліў яго ў ліку іншых кіраўнікоў паўстання. У свой час Т.Касцюшка добраахвотнікам прымаў удзел у вайне за незалежнасць у Паўночнай Амерыцы. Таму ён разам з Ю.Нямцэвічам прыняў запрашэнне сваіх баявых саратнікаў пераехаць у маладую дзяржаву Злучаныя Штаты Амерыкі.

Прынялі герояў паўстання 1794 года там добра. Ю.Нямцэвіча выбралі ў члены Амерыканскага філасофскага таварыства. Потым праз яго таварыства наладзіла сувязі з Віленскім універсітэтам і атрымала некаторыя рускія і польскія кнігі. Кіраўнік таварыства вядомы дэмакрат Т.Джэферсан здружыўся з нашым земляком і дапамагаў яму абжыцца на новым месцы. Пазнаёміўся Ю.Нямцэвіч і з былым галоўнакамандуючым амерыканскай арміі ў час вайны за незалежнасць і першым прэзідэнтам ЗША Дж. Вашынгтонам.

Ю.Нямцэвіч любіў падарожнічаць. У маладосці ён аб'ездзіў Беларусь і Украіну і шэраг краін Еўропы. Цяпер ён наведаў розныя штаты ЗША ад Вірджыніі на поўдні да Мэйна на поўначы. Добра адгукаўся наш зямляк аб дэмакратыі ў краіне, але адзначаў, што рэальную ўладу ў ЗША мелі багацеі. У штаце Нью-Йорк Ю.Нямцэвіч бачыў засілле багатых землеўладальнікаў, якія ў час выбараў распараджаліся па сваёй волі галасамі сваіх арандатараў. Са спачуваннем падарожнік паставіўся да негрыцянскіх нявольнікаў і карэнных жыхароў кантынента — індзейцаў.

У сваіх дарожных нататках Ю.Нямцэвіч пакінуў маляўнічыя апісанні жыцця амерыканскіх гарадоў, паселішчаў, карцін прыроды. Ён пабываў ля вадаспада Ніягара на рацэ Святога Лаўрэнцыя. Захаваўся яго расказ пра старэйшую навучальную ўстанову ў краіне — Гарвардскі універсітэт.

Восем гадоў правёў Ю.Нямцэвіч у ЗША. Вярнуўшыся ў Еўропу, ён працягваў займацца літаратурнай дзейнасцю, двойчы пабываў у родных мясцінах — Брэсце і Скоках, а таксама ў Панямонні і Палессі, якія падрабязна апісаў у сваёй кнізе "Гістарычныя падарожжы".

Ён так тлумачыў мэту сваіх падарожжаў па Беларусі: "Няхай іншыя адпраўляюцца ў пахучую і ўпрыгожаную цудоўнымі творамі мастацтва Аўзонію (Італію. — **В.Г.**), няхай наведваюць раскошныя Парыжы і багатыя Лондоны, я ж іду паглыбляцца ў літоўскія (у значэнні "беларускія". — **В.Г.**) бары, якія, можа быць, не такія ўжо і прыемныя, цікавыя, але жыва мяне кранаюць, таму што з'яўляюцца часткай маёй, доўгі час слаўнай і доўгі час няшчаснай айчыны.

Сорамна было ў сталым узросце далей адкладваць маё падарожжа па правінцыі, у якой і я сам, і продкі мае на свет з'явіліся, а што яшчэ больш важна, па краі, які не саступае Польскаму краю ў военачальніках, грамадскіх дзеячах, вучоных..."

Ю.Нямцэвіч ехаў па родных дарогах і бачыў, як сялян прымушалі добраўпарадкоўваць іх нават у святы. Па дарозе з Ружан у Бярозу ён запісаў: "Хаця была нядзеля, сяляне пад прымусам працавалі ля дарог і, што самае дзіўнае, у ліпені саджалі па абодвух баках сосны".

Падарожнік апісаў занядбаны замак у Брэсце, палац даследчыка-натураліста Марціна Радзівіла (1705—1781) у Чарнаўчыцах, руіны замка Забеж (цяпер Жабер), Янова (цяпер Іванава). Пінск пісьменнік ахарактарызаваў так: "Не толькі ў нашым краі, але і ў іншых мала такіх зручных для гандлю пунктаў, як Пінск". У горадзе стаяў замак, абкружаны высокім земляным валам. Другі замак, які належаў князям Вішнявецкім, знаходзіўся ў гарадскім прадмесці Лешч. Незадоўга да падарожжа Ю.Нямцэвіча (1819 год) ён быў разбураны. Захаваліся толькі дзве вежы.

Непадалёку ад Пінска пісьменнік наведаў маёнтак Заполле, у якім убачыў рэшткі другога замка Вішнявецкіх. Іх абкружалі высокія ліпы і выдатны дубовы гай.

Вялікую папулярнасць атрымаў напісаны Ю.Нямцэвічам зборнік песень аб гераічным мінулым народаў Рэчы Паспалітай, які аказаў вялікі ўплыў на грамадзянскую паэзію аднаго з кіраўнікоў Паўночнага таварыства дзекабрыстаў К.Рылеева.

К.Рылееў пісаў Ю.Нямцэвічу: "Вашы "Гістарычныя песні" былі для мяне выдатным узорам. (...) Вы на працягу жыцця свайго, як Ціртэй[1], высокімі песнямі абуджалі ў сэрцах суграмадзян любоў да айчыны, руплівасць да грамадскага дабрабыту, стараннасць да гонару народнага і іншыя высакародныя пачуцці".

У час вызваленчага паўстання супраць самадзяржаўя 1830—1831 гадоў Ю.Нямцэвіч увайшоў у састаў "Часовага ўрада" паўстанцаў. Памёр у Парыжы 21 мая (новага стылю) 1841 года.

Творы пісьменніка аб яго падарожжах і па родных краях, і па Паўночнай Амерыцы ўяўляюць гістарычную цікавасць і для сённяшняга чытача, а ўрыўкі з гэтых твораў заслугоўваюць перавыдання.

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ.**

[1] Ціртэй — старажытнагрэчаскі паэт VII стагоддзя да нашай эры, які ўслаўляў доблесць сваіх суайчыннікаў, што выступалі на абарону радзімы.



Віцебск. Фота А. ВАЛЯНЦІНАВА.

# "Я ЗАСТАЎСЯ ТЫМ ЖА НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ДЭМАКРАТАМ..."

Мои антимосковские установки стояли в тесной связи с украинофильством. Белорусский нацдемократизм, начиная с 1905 года, плелся сзади за украинским нацдемократизмом и старался ему подражать по мере возможности. Еще перед войной "Наша ніва" выписывала собрание сочинений Т.Шевченко и распространяла их по Белоруссии, сея среди своих читателей украинофильские настроения. Белорусские поэты нашенивской эпохи находились под сильным влиянием украинской литературы вообще, но будучи сравнительно более отсталыми, только после революции начали искать других тем, кроме воспевания "бедной сторонки" в самых жалостных тонах; тогда когда украинцы печатали уже свои повести, романы и сценические произведения, белорусы довольствовались переводами украинских балаганных произведений Крапивницкого.

Как по направлению литературы, так и по направлению политическому белорусы далеко отстали от украинцев, но старались их нагнать и во всем им подражать. Через украинскую литературу пересаживались все время антимосковские настроения на Белоруссию как приходящий элемент при борьбе белорусских крестьян с польским нашествием. Базировались эти настроения на исторических обидах, совершенных когда-то господствующими классами московского боярства украинской и белорусской шляхте, т.е. господствовавшему на Украине и Белоруссии чуждому трудящимся массам классу. Рядом с этим разжигалась зависть культурно отсталых украинцев и белорусов к более культурно развитой РСФСР и велась пропаганда, умалявшая культурное значение и огромные притягательные свойства (ее) как экономического центра.

Антимосковские установки в среде белорусских нацдемов, насколько мне известно, сводились к умалению русской культуры по сравнению с западной, к доказательствам, что русская культура ассимилировала много украинского и белорусского, что, таким образом, она не является оригинальной, что развитие русской культуры является следствием ее доминирующего экономического положения, а не особенностей, высших способностей русских. Наоборот, белорусский национальный демократизм проповедовал, что русские благодаря своей помеси с финнами и монголами склонны к нигилизму и деспотизму.

В этом направлении проходило влияние на молодежь. К моей дочке, студентке БГУ, приходили иногда другие студенты — помню фамилии Сологуба и Солоневича. Я несколько раз обедал или ужинал в их присутствии, заводил с ними беседу о литературе, поэзии и на текущие моменты. Сологубу я рекомендовал в его поэтическом творчестве искать народные, крестьянско-кулацкие мотивы, заключенные в народных песнях, для ознакомления я давал ему прочесть "Белорусские песни" из собрания Бессонова. Ставя выше западноевропейскую буржуазную литературу над подобной же русской, я рекомендовал читать Анатоля Франса, Ибсена, Киплинга.

По текущему моменту злободневной темой в студенческой среде являлась материалистическая философия. Я отрицал некоторые материалистические положения, противопоставляя идеалистическим и одновременно высказывал свои сомнения в полезности уничтожения кулаков как класса.

Однажды Лесик пригласил меня от имени сестры жены Громыки в гости к себе на квартиру, по поводу ее дня рождения. Придя к Лесику, я застал и Купалу и несколько человек молодежи, мне незнакомой. Между ними был Улащик. Пили чай, потом танцевали. Это был, как потом оказалось, вечер, устроенный преднамеренно для сближения старых и молодых национал-демократов. Произошло это в начале 1929 г. В конце танцев кто-то, кажется, Купала, подал мне книгу "Шляхам жыцьця" — собрание стихов Купалы для прочтения вслух некоторых его произведений нашенивской эпохи. Я прочитал. Беседа не клеилась. Одни чуждались других, и мы рано разошлись. Были ли еще подобные вечера и кому принадлежала инициатива подобного вечера — этого я не знаю.

## ЦК КРАЕВЕДЕНИЯ И ЕГО ОРГАН "НАШ КРАЙ"

Я лично по поручению ЦБК дважды читал лекции в БГУ для студентов-краеведов. Первый раз в 1928 г. на тему "Краеведение музейного строительства", второй раз в 1929 — "Схемы и здания краеведческих музеев". В обеих лекциях я указывал на специфические белорусские материалы, особенно из области гуманистической, рекомендуя моим слушателям поспешить к собиранию быстро исчезающего из быта этнографического материала и сохранить его для будущего в краеведческих музеях. Конспекты лекций я предварительно давал на обсуждение правления ЦБК. Кроме указанных лекций, ЦБК с Белгосмузеем в 1928—29 году была организована краеведческая выставка фотографий и зарисовок, которая проходила при деятельном моем участии. Выставка заключала отделы: а) белорусский пейзаж, б) белорусские типы, в) народный белорусский костюм, г) бытовые и трудовые сцены, д) орудия домашнего производства, с подотделами еврейским и латышским, которые, может быть, повторяли то же деление. Четких и ясных марксистских установок в экспозиции не было на выставке, как вообще в то время не было их в среде самих организаторов.

Во время моих экспедиционных поездок мне включалось в обязанность исследовать работу на местах с местными краеведческими организациями, но осуществить это было трудно, потому что на местах, летом, краеведы, преимущественно учителя и школьники, отсутствовали, пользуясь каникулами, и вообще среди краеведов не наблюдалось особого усердия в этой работе. Весьма примитивные и чахлые местные музейчики в большинстве представляли собрание разного барахла без системы и плана. За три года моих поездок был единственный случай помощи от краеведения в м. Озаричи, где местный уроженец краевед Кулаков давал экспедиции ценные сведения из местного быта и служил посредником между экспедицией и местным населением.

Но при всех недостатках краеведческие организации были численны и служили поставщиками большого количества материалов с мест. Кафедра этнографии создала свой объемистый архив записей при посредничестве краеведов. Часть этих материалов была собрана ИБК до моего приезда в БССР, часть другую собрали краеведческие экспедиции при мне. Не входя в состав ЦБК, я, возможно, оказывал некоторое влияние через сотрудников кафедры, в первую очередь, через служившего в ЦБК аспиранта Касперовича, который являлся одним из активных членов ЦБК. Через посредничество Касперовича, как указание печаталась в "Нашем крае" анкета и опросные листы по разным вопросам. Но вообще, все работники в ЦБК в это время смотрели, что целью осуществления ЦБК является привлечение местных низовых работников к изучению белорусского края во всех отношениях, т.е. установки неправильные, нацдемократические, а не марксистские.

**Вацлаў ЛАСТОЎСКІ.**

**Публікацыя, прадмова, заўвагі Аляксея КАЎКІ.**

**Заканчэнне. Пачатак у № № 40, 41.**

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ "CANTUS JUVENTAE"

# ЯНЫ ЯШЧЭ НЕ ЎСЁ СПЕЛІ



"Cantus Juventae" ("Моладзь, якая спявае") – гэта назва хору інстытута замежных моў горада Мінска. 9 кастрычніка "Cantus Juventae" праводзіў прэзентацыю кампакт-дыска "Беларуская духоўная музыка". Падзея адбылася ў зале камернай музыкі Белдзяржфілармоніі ў касцёле святога Роха.

Хор пры інстытуце замежных моў існуе болей за 6 гадоў. Шосты год з ім працуе дырыжор Галіна Цмыг, якая ў 1989 годзе скончыла Белдзяржкансерваторыю. "Cantus Juventae" – калектыў непрафесійны. Але любоў да музыкі як выканаўцаў, так і кіраўніка хору зрабіла яго вядомым не толькі ў інстытуце і нават не толькі на Беларусі. Пачынаў хор з песень тыпу "Мы жертвою пали". Калі Галіна Цмыг падрыхтавала з ім да выканання "Ave Maria" Шуберта, яе ініцыятыву не зразумелі ў інстытуце. Некалькі гадоў пасля гэтага хор спяваў джаз. Потым з"явілася новая нотная літаратура, змянілася кіраўніцтва ў інстытуце, і "Cantus Juventae" адкрыў для сябе невывучаны пласт песеннай культуры – касцельную і царкоўную музыку. Адкрыў і заспяваў яе. Пасля трубных маршаў 70-х гадоў моладзь звярнулася ў спевах да Бога.

У 1991 годзе "Cantus Juventae" пабываў на Міжнародным фестывалі харавой музыкі ў Рызе і на фестывалі ў Таліне.

У 1992 годзе хор быў у падарожжы па Галандыі. Паездку арганізаваў Мішэль Рэн, прадзюсер з Галандыі. Дапамог хору і інстытут. М.Рэн наладзіў і паездку нідэрландскага хору на Беларусь. Такім чынам адбыўся абмен харамі. Зараз Мішэль Рэн працуе з хорам над праграмай для галандскага тэлебачання.

У Галандыі калектыў Галіны Цмыг выступаў з канцэртамі. І не толькі. Галіна Цмыг і канцэртмайстар хору Яўген Окала-Кулак дзівіліся багаццю фондаў музычнай літаратуры ў бібліятэках Галандыі. Яны даведваліся там пра музыку, аб якой на Беларусі і не чулі. Рэпертуар хору будзе папаўняцца, дзякуючы карысным знаходкам.

Там жа, у Галандыі, "Cantus Juventae" наладзіў кантакты з фірмай "Erasmus Musiekproducties", якая запісвае і прадае лазерныя дыскі. Магазін фірмы, што знаходзіцца ў цэнтры Ратэрдама, ведаюць па ўсёй Галандыі. На студыі фірмы і зрабіў хор запіс свайго кампакт-дыска. Тут, праўда, не абышлося без казусаў. Па-першае, у фірме не здагадваліся, што запісваюць беларускі хор. Яны былі ўпэўнены, што хор з Расіі. На жаль, у Галандыі слова "Беларусь" не надта вядомае. Людзі ў Нідэрландах паказваюць яе на карце толькі што не на тэрыторыі Афрыкі. А так – то думаюць на Польшчу, то на Расію. І справа тут не столькі ў веданні геаграфіі, колькі ў недахопе кантактаў паміж людзьмі.

Другі казус здарыўся пасля запісу дыска (частка яго дапісвалася ў інстытуце на абсталяванні фірмы). Харыстам доўга не ўдавалася растлумачыць прадстаўнікам фірмы, чаму яны не змогуць паслухаць кампакт-дыск у сябе дома. Калі тыя зразумелі, што ў нас большасць людзей і не бачыла нічога да яго падобнага, галандцы заўсміхаліся і падаравалі хору сістэму для прайгравання кампакт-дыскаў.

Што ж, калі на Захадзе ўжо адмовіліся амаль ад выпуску пласцінак для прайгравальнікаў, перайшоўшы да выпуску кампакт-дыскаў, то на Беларусі нават тых жа пласцінак не выпускалі ніколі і не выпускаюць. Можна зрабіць музычны запіс толькі на радыё ці на тэлебачанні (у "Cantus Juventae" ёсць і адзін, і другі).

Галіна Цмыг ездзіла ў Галандыю яшчэ аднойчы, асобна ад хору, на міжнародныя курсы дырыжораў. Яна двойчы дырыжыравала там на гала-канцэрце (выступаць на ім – вялікі гонар). Яе ўразіла паважлівае стаўленне да мастацтва ў спакойным каралеўстве Нідэрланды. Кожны вучань у школе атрымлівае там неабходны мінімум музычнай адукацыі. Калі ён хоча вучыцца далей – вучыцца, толькі ўжо за грошы. Калі чалавек працуе, ён можа дазволіць сабе даць музычнае выхаванне дзіцяці.

Хор "Cantus Juventae" па дарозе з Галандыі на Беларусь наведаў Кёльн і выступіў у гарадскім саборы з канцэртам беларускай духоўнай музыкі.

Яшчэ на рэпетыцыі канцэрта-прэзентацыі дыска мяне ўразіла патрабавальнасць дырыжора Галіны Цмыг да выканаўцаў хору, яе эмацыянальнасць і здольнасць пражыць маленькае жыццё ў кожным жэсце рук, у кожным руху галавы, гуку.

На канцэрце моладзь стала больш сабранай і строгай. А спявалі хлопцы і дзяўчаты з пяшчотай і шчырасцю, і гэта, як мне здаецца, не было штучным. І так хацелася верыць у іх імкненні да святога. Было прыемна назіраць, якімі пранікнёнымі, чыстымі робяцца іх твары, калі яны спяваюць пра Матку Боскую і яе сына. І асабліва нечакана было ўбачыць хор дзяўчынак са школы N 133 з музычна-харавым ухілам, кіраўніком якога з"яўляецца таксама Галіна Цмыг.

У касцёле святога Роха адбылося свята харавых спеваў. І яму нічога не перашкаджала, бо там сабраліся людзі, якія вельмі чакалі яго. А калі свята прыйшло, аддалі яму частку сваёй жывой душы.

**Алена СПАСЮК.**

## РЭСПУБЛІКАНСКІ ФЕСТЫВАЛЬ ТВОРЧАСЦІ ІНВАЛІДАЎ

Аднойчы ў вельмі мужнай дзяўчыны-інваліда Ліды Мітрафанавай, якая займаецца керамікай, спыталі, ці не надакучыла ёй вазіцца з бруднай глінай. "Бруд, – адказала яна, – гэта не тое, што прыліпае, а тое, што нельга адмыць". Вельмі хутка працы Ліды мінчане змогуць убачыць на выставе, якая будзе праходзіць у рамках Рэспубліканскага фестывалю творчасці інвалідаў, што 1 кастрычніка адкрыўся ў сталіцы Беларусі. Пасля ўрачыстай цырымоніі яе ўдзельнікі раз"ехаліся па пансіянатах і дамах адпачынку, дзе на працягу пяці дзён з імі будуць весці заняткі спецыялісты. Яны змогуць падзяліцца вопытам, даць кваліфікаваныя кансультацыі, адказаць на пытанні. А пытанняў, напэўна, будзе шмат, бо ўдзельнікамі фестывалю сталі людзі, якія, нягледзячы на цяжкі лёс, знайшлі ў сабе сілы не толькі жыць, але і ствараць выдатныя карціны, пісаць вершы, спяваць... У гэтыя ж дні ў Мінску адбываюцца гастролі тэатра інвалідаў з Англіі. Яго ўдзельнікі не толькі пакажуць свае спектаклі, але і раскажуць аб вопыце рэабілітацыі інвалідаў у сваёй краіне.

Падрыхтоўка да фестывалю ішла нялёгка. Арганізоўваць сур"ёзнае масавае мерапрыемства сёння, ва ўмовах інфляцыі, вельмі цяжка. Уявіце самі: 15 мільёнаў рублёў у снежні мінулага года, калі было прынята рашэнне аб правядзенні фестывалю, і 15 мільёнаў рублёў зараз – гэта зусім розныя сумы. Сёння іх недастаткова... І тым не менш, фестываль адбыўся, бо сярод шматлікіх мерапрыемстваў апошняга часу гэта – асаблівае... Сам удзел інваліда ў такім мерапрыемстве – ужо свята... Да таго ж, фестываль дазволіць прыцягнуць увагу грамадства да праблем інвалідаў. Яго дэвіз: "Творчасць – шлях да сябе". Мастацтва павінна дапамагчы гэтым людзям знайсці апору ў нашым цяжкім свеце.

Закончыцца фестываль тэлемарафонам, які раскажа пра тых, хто прымаў у ім удзел, выступяць прафесійныя калектывы. У той жа час будуць сабраны сродкі для дапамогі тым, хто мае патрэбу. З гэтай жа мэтай адбудзецца аўкцыён, на якім будуць прадавацца работы ўдзельнікаў фестывалю, у прыватнасці, унікальны дыван 1,5 х 2 метры, які два гады ткала дзяўчынка без рук.

Фестываль, нягледзячы на ўсе складанасці нашага сённяшняга жыцця, адбудзецца і стане сапраўдным святам не толькі для інвалідаў, але і для ўсяго грамдства.



* * *

**Больш за 50 народных майстроў і мастакоў з Мінскай вобласці прынялі ўдзел у выстаўцы, што праходзіла ў рамках рэспубліканскага фестывалю творчасці інвалідаў пад дэвізам "Творчасць — шлях да сябе". Свае творы прадставілі майстры-інваліды з многіх раёнаў Міншчыны.**

**НА ЗДЫМКУ: народны майстар са стаўбцоўскай студыі народнай творчасці "Пралеска" лаўрэат многіх рэспубліканскіх і міжнародных фестываляў народнай творчасці Валянціна УЛАСІК з дзецьмі з Гомельскай вобласці**

**.Фота А.НІКАЛАЕВА.**

# МІТРАПАЛІТ КІПРЫЯН

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

І яшчэ адна цытата: "Киприан известен как знаток литературы и писатель; ему приписывают много произведений (...): "Летопись от начала земли русской", "Житие св. митр. Петра", "Сводная кормчея" и мн. других. С достоверностью можно указать на следующие произведения Киприана. 1/ 8 грамот, 2/ 4 послания св. Сергию Радонежскому и преп. Феогносту и игумену Афанасию, где он преподает спрашивавшему Афанасию общие начала хрістианской жизни и деятельности, 3/ послание игуменам, и попам, и ко мнихом, и ко всем православным христианам, 4/ прощальная грамота, где он дает пастырские душевные наставления, 5/ молитва разрешити царя и князя и всякого христианина и много переводов, писем преимущественно церковно-богослужебного характера" (Полный православный богословский энциклопедический словарь. Т. ІІ. Репринтное издание. — Москва, 1992, с. 1276—1277).

Спадчына багатая. Але ці мае яна і яе аўтар дачыненне да Вялікага Княства Літоўскага, да беларускай літаратуры? Звернемся яшчэ раз да "Слоўніка кніжнікаў і кніжнасці Старажытнай Русі". І там на старонцы 465 прачытаем: "Каля 1373 г. ён быў пасланы патрыярхам у Літву і на Русь для прымірэння літоўскіх і цверскага князёў з мітрапалітам Аляксеем. Кіпрыян сваю задачу выканаў. 9 сакавіка 1374 г. ён прысутнічаў у Цверы на пасвяшчэнні цверскага епіскапа Яўфімія, пасля з мітрапалітам накіраваўся ў Пераяслаўль Залескі. З Вялікай Русі Кіпрыян вярнуўся ў Літву. У тым самым 1374 г. ён прадпрыняў перанясенне з Вільні ў Канстанцінопаль астанкаў і праслаўленне там літоўскіх мучанікаў-хрысціян — Кругляца-Антонія, Няжыла-Івана і Кумца-Яўстафія, забітых у 1374 г. па загаду язычніцкага князя Альгерда. У 1375 г., калі аднавілася варожасць Літвы і Масквы, літоўскія князі накіравалі Кіпрыяна з граматай да патрыярха, просячы пасвяціць Кіпрыяна ў мітрапаліта літоўскага. Патрыярх Філафей 2 снежня 1375 г. пасвяціў яго ў мітрапаліта "кіеўскага, рускага і літоўскага", з тым каб пасля смерці мітрапаліта Аляксея ён аб"яднаў абедзве часткі мітраполіі, стаўшы мітрапалітам Кіеўскім і ўсяе Русі".

У 90-х гадах XIY і ў самым пачатку XY стагоддзяў Кіпрыян разгортваў вельмі актыўную дзейнасць — і рэлігійную, і палітычную — у Маскве, у Вільні, Наваградку, Кіеве і ў Візантыі. Вось яшчэ некаторыя звесткі: "20 ліпеня 1404 г. Кіпрыян паехаў з Масквы ў Вільню (быў там з вялікім гонарам прыняты Вітаўтам), потым у Кіеў. (...) У 1405 г. прысутнічаў на сустрэчы Вітаўта з польскім каралём Ягайлам у Мілалюбне. Па патрабаванні Вітаўта зняў сан з тураўскага епіскапа Антонія, абвінавачанага ў падбухторванні ардынскага цара Шчадыбека да нападу на падуладныя Літве і Польшчы рускія гарады..." (Слоўнік кніжнікаў... с. 470).

Нават тое, што мы ведаем, дае надзейную падставу разглядаць творчасць Кіпрыяна ў гісторыі нашага народа і культуры. Але ёсць яшчэ адзін аспект. Мы не ведаем, адкуль Кіпрыян быў родам. На працягу доўгага часу лічылі яго сербам. Рускія даследчыкі называюць яго балгарынам. Пры гэтым спасылаюцца на вядомага дзеяча Грыгорыя Цамблака.

У шостым нумары часопіса "Спадчына" за мінулы год надрукавана ў скарочаным выглядзе апублікаваная ў 1966 годзе ў Буэнас-Айрэсе праца архіепіскапа Афанасія Мартаса

# З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ



**З мастаком Аляксеем Кузьмічом нашы чытачы ўжо знаёмыя. Некалькі гадоў назад у "Голасе Радзімы" быў змешчаны здымак мастака. Гэта быў час, калі пачала ўзыходзіць яго зорка. Рознапланавая яго палітра: партрэты вядомых у рэспубліцы людзей, пейзажы. Але найбольшую славу мастаку прынеслі карціны серыі "Мадонны". Менавіта яны сталі галоўнымі экспанатамі выстаўкі, што адкрылася ў Палацы мастацтва беларускай сталіцы.**

**НА ЗДЫМКУ: работа з выстаўкі "Благавешчанне".**



"Літоўска-Навагрардская мітраполія". Шаноўны аўтар, як і ўсе колішнія савецкія літаратуразнаўцы і гісторыкі царквы, называе Кіпрыяна балгарынам. Хоць такіх поглядаў прытрымліваецца славуты рускі акадэмік Д. Ліхачоў і іншыя аўтарытэты, я паспрабаваў не паверыць ім. Нагадаю і прычыны. Дарэвалюцыйны рускі "Полный православный богословский энциклопедический словарь" піша, што Кіпрыян паходзіў з Літвы, а гэта значыць — з Беларусі.

Сёння ёсць рэальная магчымасць разабрацца з гэтым складаным пытаннем. На трэцім археалагічным кангрэсе ў Кіеве ў 1874 годзе і на чацвёртым у Казані (1877 год) былі заслуханы даклады архімандрыта Амфілохія "Что внес св. Киприан, митрополит Киевский и всея России, а потом Московский и всея России, из своего родного наречия и из переводов его времени в наши богослужебные книги?" и "Справедлив ли упрек монаха Нила Курлятева в том, что митрополит Киприан по-гречески гораздо не разумел и нашего языка довольно не знал же при исправлении Псалтири?" У самім загалоўку другога даклада робіцца спасылка на Ніла Курляцева, які яшчэ ў XYI стагоддзі заявіў, што Кіпрыян не ведаў добра рускае мовы.

Архімандрыт Амфілохій прыводзіць вялікую колькасць цытат з твораў Кіпрыяна, каб удзельнікі форуму самі разбіраліся ў сутнасці разыходжанняў з нормамі колішняй рускай мовы.

Дазволю і я сабе прывесці пару прыкладаў з паслання Кіпрыяна ігуменам Сергію Радонежскаму і Феодару Сіманоўскаму: "... отпуская их на клячах либивых бе-седел во обротех лычных". Для сучасных рускіх даследчыкаў словы "аброць лычная" значыць "адзенне з лыка". А нам цікава было б даведацца, адкуль з'явілася слова "аброць": з колішняй балгарскай ці з беларускай мовы, дзе яно шчасліва дажыло да сённяшніх дзён?

Возьмем яшчэ адзін прыклад: "иму говорити". Перастаўце словы і атрымаеце "говорити иму". А калі вымавіць іх разам, то пачуем "гаварыцьму". Што гэта такое — мабыць, гаварыць не трэба.

Каб рабіць больш або менш надзейныя вывады, трэба было б ведаць, які выгляд тыя ці іншыя словы або граматычныя формы з кіпрыянаўскіх пасланняў і перакладаў мелі ў тагачаснай беларускай і балгарскай мовах. А пакуль што над гэтай справай ніхто не задумваўся.

Я спецыяльна хачу падкрэсліць значэнне гэтых пытанняў таму, што мітрапаліт Кіпрыян уяўляецца мне найбольш буйным з вядомых дзеячаў нашай культуры і літаратуры даскарынінскага перыяду. Ён і павінен заняць належнае месца ў гісторыі нашай літаратуры і народа.

Калі Кіпрыян сапраўды паходзіў з Заходняй Русі, то ці не гэтым тлумачацца ягоныя ўстойлівыя сімпатыі да той зямлі, якую на працягу стагоддзяў называлі Літвою, хоць для карэнных жыхароў (як тут не ўспомніць Францішка Скарыну або Васіля Цяпінскага) яна была Рускаю? Тыя сімпатыі засведчаны сённяшнімі даследчыкамі.

Пачытаем, што пра яго піша акадэмік Д.Ліхачоў: "У 1404 г. у Маскве быў складзены абшырны агульнарускі звод, які паказаў рускую гісторыю з пункту гледжання адзінства Рускай зямлі. Ініцыятыва складання гэтага зводу належала выдатнаму пісьменніку таго часу — мітрапаліту Кіпрыяну, але закончаны гэты звод ужо быў пасля яго смерці.

Кіпрыян аб'яднаў у сваіх руках кіраванне рускаю царквою ва ўсіх рускіх абласцях, у тым ліку ў тых, якія знаходзіліся ў складзе Літвы. (...) У звод Кіпрыяна ўпершыню былі ўключаны звесткі па гісторыі Літвы". "Шляхам ускосных намёкаў і гістарычных прыкладаў летапісец усяляк павучае сучасных яму маскоўскіх правіцеляў. Так, напрыклад, дзеля павучання ў склад летапісу была ўключана пахвала розуму і ваенных талентаў літоўскага князя Альгерда. Летапісец асабліва здзіўляецца яго ўменню захоўваць ваенную тайну і нечспадзявана нападаць на ворагаў. "Не так сілаю, як розумам ваяваў", — гаворыць пра яго летапісец, які імкнуўся паставіць сябе над маскоўска-літоўскай барацьбою". (История всемирной литературы. Т. III. — Масква, 1985, с. 473—474).

Тут яўна высвечваюцца асаблівыя пачуцці Кіпрыяна да "Літвы". І калі б мітрапаліт сапраўды быў родам адтуль, то і ягоныя паводзіны былі б больш зразумелымі.

У разважаннях акадэміка Д.Ліхачова не ўсё бездакорна, і з ім можна спрачацца. Хочацца паставіць побач дзве цытаты, узятыя з адной і той самай публікацыі ў трэцім томе "Гісторыі сусветнай літаратуры". Ён адзначае, што ў "Аповесці пра нашэсце Едыгея на Маскву" летапісец "з пункту гледжання неабходнасці звярнуць усе ваенныя намаганні абодвух бакоў (Масквы і Літвы. — **У.К.**) толькі супраць татараў, нанава перапрацоўвае кіпрыянскую ідэю маскоўска-літоўскага адзінства". Так сказана на старонцы 474. А ўжо на наступнай, 475 старонцы, мы чытаем: "Занадта яўна пярэчыла кіпрыянская ідэя захавання размеркавання рускіх земляў паміж Літвою і Масквою рэальным інтарэсам рускага народа". Дык як усё ж такі стыкуецца ідэя "адзінства" з ідэяй "размеркавання"?

Затое ж іншыя паведамленні Д.Ліхачова заслугоўваюць уважлівых адносін і асэнсавання. Узяць хоць бы такое: "У папярэднім летапісным зводзе Кіпрыяна галоўная роля ў абароне Масквы ад войскаў Тахтамыша належыць унуку вялікага літоўскага князя Альгерда Асцею, які замяніў вялікага князя Дзмітрыя Іванавіча, што пайшоў у Кастраму на зборы войска".

Так ці інакш ва ўсёй дзейнасці Кіпрыяна бачыцца арыентацыя не на распальванне канфліктаў Вялікага Княства Літоўскага з Масквою, а на іх збліжэнне. Варта нагадаць, што Крэўская унія 1375 года знаменавала сабою новы этап ва ўзаемаадносінах Вялікага Княства з Польшчаю. А яшчэ ж не так даўно гісторыя была сведкам абвостраных канфліктаў паміж імі. Тая унія прадвызначыла збліжэнне і ўзаемадзеянне дзвюх дзяржаў, разлічанае на доўгачасовую перспектыву. А чаму не дапусціць, што ў тыя часы рабіліся намаганні на лепшае ўзаемаразуменне і ўзаемазбліжэнне Вялікага Княства Літоўскага з Масквою?

Можна паўтарыць: рускія (і тым больш балгарскія) даследчыкі на сучасным этапе з усёй упэўненасцю гавораць пра паўднёваславянскае паходжанне Кіпрыяна. А Вацлаў Ластоўскі з такой самай упэўненасцю пісаў пра ягоны "літоўскі" радавод: "Аб мітрапаліце Кіпрыяне ведама, што ён быў ураджэнцам Літвы". "Па смерці Аляксея, мітрапаліта Маскоўскага, патрыярх назначыў Кіпрыяна быць мітрапалітам Кіеўскім і ўсей Русі. Баючыся, што Кіпрыян, як ураджэнец Літвы, будзе больш спрыяць апошняй, Маскоўскі вял. кн. Дзьмітры Іванавіч не прызнаў яго". (Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. — Коўна, 1926, с. 136).

Заслугоўвае ўвагі характарыстыка, якую В.Ластоўскі дае мірапаліту: "Кіпрыян належаў да надзвычайна ўмелых палітыкаў; маючы сваю мітраполію, як мітрапаліт Кіяўскі і ўсей Русі, часьцю ў Маскові, часьцю ў Літве ўмеў ладзіць і з Літоўскім і з Маскоўскім князям, а галоўнае, — дзякуючы яму, трывала ўзглядная згода між гэтымі князямі. Вітаўт і Ягайла адносіліся з вялікай пашанай да Кіпрыяна і ў важнейшых выпадках засягалі яго рады. Вял. кн. Маскоўскі, Васілі Дзьмітравіч, выказываў такжа вялікую пашану мітр. Кіпрыяну" (там сама).

Асоба мітрапаліта Кіпрыяна ў гісторыі трох народаў — беларускага, рускага і ўкраінскага — займае аднолькава ганаровае месца. Ён быў адным з апошніх дзеячаў таго перыяду, калі старыя міжусобныя канфлікты і размежаванні паміж паасобнымі княствамі і землямі па сутнасці ўжо саступалі месца новым гістарычным працэсам, што прывялі да якасна новых палітычных падзелаў на нашых землях, да ўтварэння дзяржаўных арганізмаў, якія, развіваючыся па сваіх законах, абумоўленых унутранымі і знешнімі фактарамі, усё больш адмяжоўваліся.

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**

# ЗРОБЛЕНЫ ТОЛЬКІ ПАЧАТАК

У канцы верасня ў памяшканне былога Інбелкульта (вул. Рэвалюцыйная, б. Койданаўская, 15) канчаткова пераехаў Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны. Там жа, у самым вялікім пакоі, сцены якога памятаюць Максіма Гарэцкага і Усевалада Ігнатоўскага, Якуба Коласа і Янку Купалу, дзейнічае музейная выстава "Беларусы ў свеце", урачыста адкрытая ў час Першага з'езда беларусаў свету. Памятныя рэчы, кнігі, перыядычныя выданні, фатаграфіі, рукапісы, архіўныя дакументы перадалі сюды Алесь Алехнік з Аўстраліі, Ігар Казак і Вітаўт Кіпель з ЗША, Барыс Кіт з Германіі, Аляксандр Надсон з Вялікабрытаніі і інш. Свае палотны ахвяравалі мастакі Валерый Дзевіскіба, Мікола Купава, Вячка Целеш, Кастусь Харашэвіч. Многа цікавых матэрыялаў пра Міхала Забэйду-Суміцкага, Пятра Міprintановіча, беларусаў у даваеннай Латвіі перадаў паэт Сяргей Панізнік.

Аднак мы разумеем, што зроблены толькі пачатак. Разам з "Бацькаўшчынай", Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў будзем пашыраць экспазіцыю, рабіць новыя стэнды, прысвечаныя дзеячам беларускай эміграцыі, нашым землякам, якія працавалі і працуюць у іншых краінах. Таму звяртаемся да ўсіх прадстаўнікоў беларускай дыяспары, хто мае адпаведныя матэрыялы: давайце пакінем для будучых пакаленняў памяць пра нашы паўсядзённыя справы, створым музей "Беларусы ў свеце". Наш адрас: **Беларусь, 220050, Мінск-50, вул. Рэвалюцыйная (Койданаўская), 15. Цэнтр імя Ф. Скарыны.**

**Адам МАЛЬДЗІС,**
**дырэктар цэнтра,**
**прэзідэнт МАБ.**

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

**На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

# ШТЭМПЕЛІ НАШАЙ ПОШТЫ

Новая старонка ў гісторыі беларускай філатэліі была адкрыта ў 1991 годзе. Тады ўпершыню ў сваёй практыцы беларуская пошта прымяніла для гашэння карэспандэнцыі спецыяльны паштовы штэмпель з надпісам "Рэспубліка Беларусь". 19 верасня 1991 года Вярхоўным Саветам БССР быў прыняты закон аб назве БССР і аб дзяржаўных сімвалах — гербе і флагу. БССР стала называцца — Рэспубліка Беларусь, а замест герба БССР, прынятага ў лютым 1919 года і зmененага ў 1927, 1938, 1939 і 1958 гадах, быў зацверджаны новы — старадаўняя "Пагоня". Менавіта гэту падзею ў жыцці новай дзяржавы і вырашыла адзначыць мінская пошта, правёўшы з 24 па 26 кастрычніка 1991 года на Мінскім паштамце спецыяльнае гашэнне карэспандэнцыі. У малюнку спецыяльнага штэмпеля быў надпіс "Рэспубліка Беларусь", дата "19.09.1991. Мінск" і адлюстраванне старажытнага герба "Пагоні". На жаль, работнікі пошты не прадумалі да канца ідэю гэтага штэмпеля. Прымяняўся ён у кастрычніку на Мінскім паштамце, аднак даты прымянення (24—26.X.1991 г.) на штэмпелі няма, як і няма слоў "пошта" ці "паштамт", ці "мінская пошта". Маецца толькі дата 19 верасня — дзень прыняцця закона. Усяго з верасня 1991 года па красавік 1993 года беларуская пошта правяла дзевяць спецгашэнняў. з іх сем адбылося ў Мінску і па адным у Гомелі і Рагачове. Гэта спецгашэнні да 100-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча і Р. Шырмы, да 1000-годдзя Беларускай праваслаўнай царквы, 850-годдзя Гомеля і Рагачова, а таксама гашэнні "Першы дзень" — у дзень выхаду ў паштовае абарачэнне першай беларускай маркі з адлюстраваннем крыжа Ефрасінні Полацкай, маркі, прысвечанай 100-гадоваму юбілею вядомага музычнага дзеяча Р. Шырмы і марак з адлюстраваннем дзяржаўных герба і флага. Штэмпель у першы дзень у двух апошніх гашэннях быў аднолькавы.

Што можна сказаць пра гэтыя штэмпелі з пункту гледжання зацікаўленых асоб — філатэлістаў? Нас не задавальняе ні якасць іх (мастацкае афармленне), ні колькасць.

Калі гаварыць пра мастацкае афармленне спецштэмпеляў, то асабліва варта сказаць аб штэмпелях "Першы дзень". Яны выкананы на вельмі нізкім мастацкім узроўні і зроблены для шматразовага ўжывання, гэта значыць падыходзяць да любой маркі. Выраблены гэтыя штэмпелі без усялякай фантазіі. Ствараецца ўражанне, што наша пошта вярнулася ў 50-я гады. Тады ў 1957—1959 гадах упершыню ў практыку Міністэрства сувязі БССР увайшлі спецыяльныя штэмпелі для гашэння паштовай карэспандэнцыі ў памятныя даты. Як і першы спецштэмпель пошты Рэспублікі Беларусь, першы спецштэмпель Міністэрства сувязі БССР быў выраблены з памылкай — адсутнічала дата. Гісторыя, як бачым, паўтараецца. Усе спецыяльныя штэмпелі Міністэрства сувязі БССР у 50-я гады былі невыразнымі, толькі круглымі, як звычайная гербавая пячаць, большасць з іх (каля 10) былі без малюнка, толькі надпісы. Так і сёння. Круглы штэмпель без малюнка лягчэй вырабіць, чым фігурны з малюнкам, да таго ж выраб круглага штэмпеля без малюнка каштуе больш танна.

Магчыма нам, філатэлістам, не было б крыўдна за нашу пошту, калі б мы не бачылі і не ведалі, як робяцца спецыяльныя штэмпелі ў іншых былых савецкіх рэспубліках, а цяпер незалежных дзяржавах, колькі іх і якая іх якасць.

— Так у Літве прымяняўся спецыяльны штэмпель з адлюстраваннем Тракайскага замка. Дык чым жа наша пошта горшая, ці хіба Белая вежа або Мірскі замак не дастойныя трапіць на паштовы штэмпель і разляцецца па свеце на канвертах? А хіба нельга было вырабіць штэмпель да выхаду ў свет серыі марак "Беларуская кераміка", герба Полацка ці нават першага стандартнага выпуску беларускіх марак. А колькі дат, юбілеяў, падзей у жыцці рэспублікі, дастойных быць адзначанымі спецгашэннямі было прапушчана нашай поштай! Прывяду толькі некалькі прыкладаў такіх упушчэнняў. Нацыянальны алімпійскі камітэт нашай рэспублікі быў прыняты ў МАК (Міжнародны алімпійскі камітэт), беларускі НАК мае сваю эмблему. Падзея не штодзённая. Для пошт многіх краін СНД такая падзея паслужыла прычынай, стымулам для выпуску і марак, і канвертаў, і спецыяльных штэмпеляў. Беларуская ж пошта на гэтую падзею не адгукнулася нічым. А спартыўная тэматыка ў філатэліі карыстаецца вялікай папулярнасцю ва ўсім свеце, асабліва алімпійская і асабліва такія філатэлістычныя матэрыялы, якія гавораць аб прыняцці новай дзяржавы ў МАК. Не ўсім філатэлістам у свеце вядомы нават такі славуты беларускі спартсмен, як Шчэрба, не ўсе філатэлісты ў свеце ведаюць аб поспехах беларускіх спартсменаў на сусветных першынствах, і, нарэшце, не ўсім вядома, што ёсць такая новая дзяржава — Рэспубліка Беларусь. Атрымаўшы ж канверт са спецштэмпелем аб Нацыянальным алімпійскім камітэце Рэспублікі Беларусь, кожны філатэліст пастараецца даведацца як мага больш аб новай дзяржаве. Пошта наша ўпусціла гэтую магчымасць. А гэта ж таксама і прэстыж беларускай пошты. Упушчана дата юбілея М. Гарэцкага, 100-годдзе з дня нараджэння якога мы сёлета адзначалі.

У філатэлістаў рэспублікі ствараецца ўражанне, што плана спецгашэнняў на 1993 год у нашай пошты няма, што пошта проста не зацікаўлена ў такім мерапрыемстве, як правядзенне спецыяльных гашэнняў. Можа быць няма такіх планаў таму, што гэта арганізацыя ніколі не раілася з філатэлістамі і што там няма ніводнага дасведчанага філатэліста.

А колькі грамадска-палітычных, спартыўных, музычных, культурных падзей заслугоўваюць таго, каб быць адлюстраванымі на паштовым штэмпелі. Але ствараецца ўражанне, што ўсе гэтыя падзеі праходзяць нібыта міма беларускай пошты, больш правільна — пошта іх не заўважае.

**Леў КОЛАСАЎ.**



**Больш за сорак гадоў адпрацавала ў жывёлагадоўлі Ніна МАКАРЧУК (на здымку) з вёскі Крывічы Зэльвенскага раёна. І ўсе гэтыя гады, ды і цяпер, на пенсіі, займаецца яна ткацтвам, вышыўкай, вязаннем. Яе ўмелымі рукамі сатканы прыгожыя пакрывалы і палавікі, выраблены ручнікі, абрамленыя мясцовым арнаментам, звязаны сурвэткі. Па словах Ніны Макарчук, майстэрствам гэтым славіліся ўсе жанчыны ў родзе, яно перадавалася з пакалення ў пакаленне.**

**Фота Э.КАБЯКА.**

## *СПОРТ*

ФУТБОЛ. Лепшыя клубы Беларусі, Літвы, Латвіі, Эстоніі і Калінінграда прынялі рашэнне праводзіць паміж сабой мінітурніры накшталт еўракубкавых. Першую сустрэчу футбалісты мінскага "Дынама" правядуць у Таліне з мясцовай "Флорай" у пачатку лістапада.

ХАКЕЙ. У Славакіі прайшлі чвэрцьфінальныя гульні Кубка Еўропы сярод клубных каманд. Мінская "Цівалі" перамагла мясцовую "Дуклу" — 3:1, балгарскую "Славію" — 11:0 і "Крэнгольм" з Эстоніі — 6:0 і заняла першае месца. У паўфінале беларускім спартсменам прыйдзецца сустрэцца з фінскім клубам ТПС "Волерэнген".

ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА. На розыгрышы Кубка Рэспублікі Беларусь вызначыўся мінчанін Андрэй Марчанка, які ўстанавіў тры нацыянальныя рэкорды ў вагавой катэгорыі да 70 кілаграмаў. Гэта добрая заяўка на медаль чэмпіянату свету, што хутка пройдзе ў Аўстраліі.

ВЕЛАСПОРТ. Маладзёжнае першынство свету завяршылася ў Аўстраліі. Беларуская веласіпедыстка Наталля Цылінская заваявала тут бронзавы медаль у спрынтэрскай гонцы.

ФЕХТАВАННЕ. Трэцяе месца заняла каманда Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь на чэмпіянаце свету сярод ваеннаслужачых. Нашы спартсмены атрымалі 3 залатыя, 2 сярэбраныя і два бронзавыя медалі.

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак.1459. Падпісана да друку 18. 10.1993 г.**